„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб’яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Найважнейшая навіна ў навучанні беларускай мове ў польскіх школах гэта падручнік для чацвёртага класа «Колазварот». Таму адводзім яму шмат месца ў гэтым нумары «Беларускага настаўніка». Знойдзеце тут інфармацыю пра яго змест і структуру, а таксама гатовы сцэнарый заняткаў з выкарыстаннем новай кнігі, які падрыхтавала яе аўтарка Аліна Ваўранюк. Цікавым і карысным дадаткам да «Колазвароту» з'яўляецца дыск з 11 песнямі, якія можна выкарыстоўваць у працы з дзецьмі. І яго, як ластаўку новага падручніка, высылаем разам з нашым паўгоднікам.

Іншыя сцэнарыі ўрокаў накіраваныя на тое, каб паказаць вучням, што мы на гэтай зямлі не першапраходцы, што людзі, якія жылі тут да нас не толькі дбалі пра матэрыяльныя рэчы, але і гулялі са словам: складалі легенды і паданні, стваралі пантэон багоў, духаў ды іншых незвычайных персанажаў, якія засялялі іх свет нароўні з рэальнымі істотамі. Аўтаркі сцэнарыяў Здзіслава Каральчук і Тамара Карнілюк пераканаsuccessfully ныя, што варта зацікавіць гэтым сённяшнюю моладзь.

Мы ідзём па сцежках, якія пратапталі нам таксама нашы настаўнікі. Іх сцежкі, часта вельмі складаныя, у нечым агульныя, а ў нечым індывідуальныя, пройдзеныя канкрэтным чалавекам, адкрываем у кожным «Беларускім настаўніку». У гэтым нумары размова з Мікалаем Варанецкім з вёскі Альхоўкі ў Белавежскай пушчы. Народжаны ў 1946 годзе, падрастаў у цяні толькі што мінулай вайны, у матэрыяльнай нястачы, якую кампенсавала багацце тутэйшай прыроды, а жыццё ўтульным рабіла родная мова, якая паўсюдна гучала ў наваколлі. Працаваў ён у Альхоўцы, Ляўкове і Нараўцы. А як і чаму стаў настаўнікам ды якіх людзей спатыкаў на сваім жыццёвым шляху — ужо на наступнай старонцы.

Рэкамендую таксама тэкст пра наша тут і цяпер. Пра тое, як словы не заўсёды адпавядаюць рэчаіснасці. «Шматкультурнасць» гэта такое слова-ключ, якое апошнім часам вельмі часта выкарыстоўваецца дзеля апісання культурнай, моўнай, нацыянальнай і рэлігійнай сітуацыі на Беласточчыне. Славамір Іванюк пераконвае аднак, што яно пустое, як шкарлупіна яйка без сярэдзіны. Прыводзіць аргументы, чаму так лічыць і піша, што трэба зрабіць, каб напоўніць яго зместам.

З надзеяй, што «Беларускі настаўнік» будзе цікавы і карысны жадаю добрых канікулаў. І перш-наперш моцнага здароўя!

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Я — пасляваенны чалавек



Мікола ВАЎРАНЮК



— кажа **Мікалай Варанецкі**, настаўнік-пенсіянер, які пражывае ў бацькоўскім доме ў Альхоўцы Нараўчанскай гміны. Пра сябе напісаў коратка, а тэкст назваў «Мая настаўніцкая праца. Зацікаўленне беларускай мовай»:

*Калі я быў малым хлопцам, то ў маёй вёсцы ўсе размаўлялі на беларускай гаворцы. Толькі настаўнікі вучылі дзяцей гаварыць па-польску.*

*У 1952 годзе я пайшоў у першы клас і стаў знаёміцца з польскай мовай. У другім класе сталі навучаць беларускую мову як прадмет. На школьных вечарынах дзеці дэкламавалі, апрача польскіх, беларускія вершы, рыхтавалі беларускія сцэнкі, спявалі беларускія песні. У палове 1950-х гадоў у школе ў Альхоўцы беларускай мове навучала і любоў да роднага прышчапляла Тамара Хлябіч-Раманчук, якая ўжо пакінула гэты свет.*

*Меў я цётку ў Шымках Міхалоўскай гміны, ад якой чуў мову блізкую да літаратурнай. Цётка гаварыла «ён, яна, яны». Ад яе пачуў я прымаўку: «Нашы едуць, вашы йдуць, нашы вашых падвязуць».*

*Ужо ў падставоўцы я стаў чытаць беларускія апавяданні і аповесці. У школьнай*

*бібліятэцы было шмат беларускіх кніжак.*

*Потым я зрабіў памылку, бо не пайшоў вучыцца ў беларускі ліцэй. Але наймаў кватэру ў Гайнаўцы ў Васіля Дзуна, былога настаўніка, які гаварыў па-беларуску і чытаў вечарамі беларускую літаратуру. Васіль Дзун быў свядомым беларусам і прывіваў мне любоў да беларускасці. Ён быў членам Павятовага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гайнаўцы, чытаў і пісаў у «Ніву». Некаторыя кніжкі, якія чытаў ён, я таксама перачытваў.*

*У 1960-я гады я захапляўся «Лявоніхай», якая давала канцэрты па вёсках і мястэчках. У палове 60-х я стаў вучыцца ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку і быў на канцэрце славутага спевака Міхала Забэйды-Суміцкага. Ён цудоўна спяваў беларускія песні, а таксама песні іншых народаў.*

У вучнёўскія гады



*Калі я атрымаў дыплом настаўніка, то пайшоў на працу ў сваёй Нараўчанскай гміне. Беларускай мове я навучаў шэсць гадоў у Альхоўцы і чатыры ў Нараўцы. У 1975 годзе асветная ўлада скіравала мяне ў Мінск на месячныя курсы беларускай мовы. Гэта быў цудоўны час. Нам не толькі чыталі лекцыі, але знаёмілі нас са сталіцай і з Міншчынай. Вазілі нас на радзіму Янкі Купалы і Якуба Коласа, на Курган славы і ў Хатынь. Выкладчык спеваў навучыў нас некалькіх беларускіх песень. Удзельнікі курсаў атрымалі па дзесяць беларускіх кніжак. Уражанні былі вялікія і мне захацелася пісаць вершы. Напісаў два — пра Мінск і пабыўку ў Хатыні. Потым стаў пісаць у «Ніву». Бяру ўдзел у літаратурных конкурсах.*

*Будучы на пенсіі, спяваю беларускія песні ў калектыве «Нараўчанкі».*

— **Вы лічыце сваёй памылкай, што не пайшлі ў беларускі, а ў польскі ліцэй у Гайнаўцы. Як гэта сталася?**

— Я і не памятаю. Можа хто з настаўнікаў падказаў. А мо за калегамі са школы пайшоў. Наступіў час, калі моладзь з вёскі пайшла ў гарады працягваць вучобу. Хлопцы аднак, як правіла, выбіралі прафтэхшколу. Я быў першым з вёскі, які пайшоў у агульнаадукацыйны ліцэй. Сусед смяяўся: «Колік, куды ты запісаўся? Гэтая школа не дае ніякай прафесіі. Дзе твая галава? Будзеш чатыры гады дарма па Гайнаўцы хадзіць».

— **Што на гэта Вашы бацькі?**

— Ім мусіць усё адно было. Яны так і казалі: ідзі за калегамі.

— **А кім былі бацькі?**

— Малазямельнымі гаспадарамі. У нас

было ўсяго тры гектары зямлі. Бракавала грошай на ўсё. Вяскоўцаў ратавала Белавежская пушча. Хто быў малады і дужы, ішоў з сякерай і пілой у лес. Або з канём, вывозіць дрэва на склад. У Альхоўцы чатыры гады, з 1954 па 1958 была Грамадская народная рада (*Gromadzka Rada Narodowa*) і магу пахваліцца, што мой бацька Павел быў яе старшынёю. На тэрыторыі Нараўчанскай гміны было пяць ГНРаў і, дзеля ашчаднасці дзве, то-бок нашу і ў Луцэ, ліквідавалі.

— **Якая адукацыя была ў бацькі?**

— Чатыры класы царскай школы. Таму ён і мне прышчапляў любоў да рускай мовы. Я да сёння лічу, што руская і беларуская мовы — дваюрадныя сёстры, а польская ім — траюрадная. Бацька па-польску крыху пісаў, але слаба. А маці Анастасія вучылася ўжо ў міжваеннай Польшчы. Таксама чатыры класы закончыла.

— **А Вы да ліцэя дзе вучыліся?**

— Шэсць гадоў у Альхоўцы, а ў апошнім сёмым класе — у Нараўцы. Нас тут пару хлопцаў было, то вясною і восенню на роварах туды ездзілі, шэсць кіламетраў у адзін бок. А зімою бацькі па чарзе санямі вазілі.

— **Рамантыка.**

— З сённяшняга пункту гледжання так. Як і расказы пра колішнія суровыя зімы. Але жылося тады нялёгка. Я — пасляваенны чалавек, нарадзіўся ў 1946 годзе, з самага маленства чуў расказы пра вайну, пра тое, як немцы ўжо ў ліпені 1941 года спалілі Альхоўку, а людзей вывезлі ажно ў Подваркі каля Заблудава. Як потым нашы людзі перабіраліся бліжэй да сваёй вёскі (мае бацькі, напрыклад, у Шымкі, да сям'і цёткі, а потым яшчэ бліжэй — у Семяноўку), як адбудоўвалі сядзібы пасля вайны. Мой васямнаццацігадовы дзядзька бачыў, як немцы гналі нараўчанскіх яўрэяў на расстрэл. Можна сказаць, што я выхоўваўся ў цяні гэтых жахаў. Я не толькі ўважліва слухаў старэйшых, але і многа чытаў. У школьнай бібліятэцы таксама найбольш было кніжак пра вайну, партызан. Памятаю кнігу на рускай мове «Повесть о Зое и Шуре Космодемьянских». З беларускіх вельмі мне падабаўся «Міколка Паравоз». Мы да 1962 года жылі пры газавых лямпах, дык калі давялі нам электрычнасць, я быў вельмі задаволены, а бацька не: «Дурны ты. За такія грошы, якія нам трэба плаціць за гэта, купілі б столькі газы, што да канца жыцця хапіла б». Сялянам трэба было аплаціць і пабудову электралініі (раскладалі па ратах), і потым пакрываць рахункі паводле лічыльніка. Але ж разам з электрыфікацыяй прыйшлі ў вёску і іншыя здабычы тэхнікі. Сусед купіў радыёпрыёмнік *Pionier* і я часта забягаў да яго паслухаць музыку і навіны. А бацька

Настаўнік Мікалай Варанецкі ў краме ў Ляўкове (фота калегі настаўніка Янкі Целушэцкага)



ў сваіх падліках, на жаль, не памыліўся, бо нядоўга пажыў, усяго да 1969 года і газы яму сапраўды хапіла б да канца ягоных дзён.

**— Пакуль раскажаце, як Вы сталі настаўнікам, скажыце, як у Гайнаўцы папалі да Васіля Дзуна?**

— Праз успомненую цётку з Шымак. Ён адтуль паходзіў. Пры цары вучыўся ў семінарыі ў Ялоўцы, у бежанстве быў ажно ў Сібіры, там нават закончыў некалькі курсаў палітэхнікі ў Томску. Пры санацыі, як беларус, не мог знайсці працу. Пасля вайны быў кіраўніком Пачатковай школы ў Шымках, а потым вучыў біялогіі ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Калі мы ў яго жылі, быў ужо на пенсіі. Многа чытаў, прыносіў кнігі з бібліятэкі, якімі і я карыстаўся. Размовы з ім таксама ўмацавалі маю беларускую свядомасць.

У аматарскай фоталабараторыі ў хаце Янкі Целушэцкага (у час настаўнічання ў Ляўкове)



**— І тады Вы рашылі працаваць у школе?**

— Не, я доўга не ведаў, якую прафесію выбраць. Бацькі былі надта бедныя, каб адправіць мяне ў горад у вышэйшую школу. Пасля матуры крыху сядзеў дома. Затым дазнаўся, што настаўнік з Ляўкова Міхал Івацік пайшоў на пенсію і я ўладкаваўся на яго месца. Два гады папрацаваў і павятовы інспектар асветы Міхал Сабяшук сказаў, што не прадоўжыць са мной кантракт, бо я некваліфікаваны: *„Masz iść na SN"*. І так я стаў студэнтам двухгадовай Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Спецыялізацыя — руская філалогія. Заняткі меў на Свярковай, жыў у інтэрнаце побач са школай, за які плаціў — памятаю — 404 злотых у месяц. У тым было поўнае харчаванне. Атрымліваў 380 злотых стыпендыі, дык мне толькі 24 злотых прыходзілася даплаціць са сваіх. Не было цяжка, бо за два гады ў школе былі ў мяне невялікія зберажэнні.

**— Пасля СНу Вы вярнуліся ў Ляўкова?**

— Так. Тады якраз у падстаноўках дадалі восьмы клас і зноў я там спатрэбіўся. І вучыў не толькі рускай мове, але і гісторыі, геаграфіі. Пасля года Павятовае аддзяленне асветы і культуры накіравала мяне на завочныя вышэйшыя магістарскія студыі. З 1968 па 1972 год спалучаў я працу ў школе з навукай у Вышэйшай педагагічнай школе ў Гданьску. Са мною вучыўся Мікалай Падолец са школы ў Моры, які потым стаў працаваць у Пачатковай школе № 3 у Бельску.

**— У той час, у снежні 1970 года адбылася бадай найбольш крывавая падзея ў гісторыі Польскай Народнай Рэспублікі. Войска на вуліцах Гданьска страляла па ўзбунтаваных рабочых. Бачылі Вы тое?**

— Не, я ж быў завочным студэнтам і ў Гданьск прыязджаў толькі на з'езды нашай групы. Мы сабраліся два тыдні пасля тых падзей. Я бачыў толькі абсмаленую сцяну вакзала і на вуліцах шмат патрулёў. Запомніўся мне адзін міліцыянт з кабурой на жываце. Не ведаю, чаму ён так яе насіў, мо каб зручней дастаць пістолет. А ў школе ніхто пра нішто не гаварыў. Поўнае маўчанне.

— **У час вучобы ў Гданьску Вы памянялі месца працы.**

— Так. Пасля смерці бацькі трэба было дапамагаць маці ў гаспадарцы, таму я пераехаў у Альхоўку. Тут таксама ўжо была васьмікласная пачатковая школа, дзе я і стаў працаваць. Праіснавала яна нядоўга, да 1975 года. Тады ў Альхоўцы засталіся толькі чатыры класы і я са старэйшымі вучнямі стаў даязджаць, спачатку такой будай за трактарам, а потым на аўтобусе ў гмінную школу ў Нараўцы. Праўда, тады адчынілі ў нас у вёсцы сельскагаспадарчую школу. У ёй моладзь, якая засталася на гаспадарцы, здабывала патрэбныя паперы. І там я таксама вучыў да закрыцця гэтых курсаў, да 1985 года. А потым пачало псавацца здароўе і ў 1996 годзе, пасля трыццаці гадоў працы ў школе, пайшоў я на пенсію. І так жыву ў роднай вёсцы, спяваю беларускія песні ў калектыве «Нараўчанкі».

— **У рэпертуары калектыву ёсць і Вашы аўтарскія творы. Напрыклад «Семяноўская чайка».**

*Скончыўся зімовы холад,*
*Сонца дорыць цяпло.*
*Над Семяноўкай чайкі,*
*Чайкі ляцяць над сялом.*

— Мікалай Мяжэнны — музычны інструктар з Беларусі, які працуе з калектывам «Цаглінкі» ў Ляўкове, напісаў музыку на некалькіх маіх вершаў. Песні спадабаліся нашым спевакам і мы іх выконваем.

— **А скажыце, у Вас нейкая музычная адукацыя ёсць?**

У роднай вёсцы




Перад школай у Нараўцы

— Няма. Калі школу ў Нараўцы пакінула настаўніца музыкі Вера Міхноўская, то я рыхтаваў дзяцей да конкурсаў беларускай песні. Акампаніятара не было, а былі ў школе акардэоны. Я кажу дырэктару: вазьму на зіму адзін дахаты і да вясны навучуся граць. Крыху і праўда падвучыўся, але каб стаць добрым музыкантам, то гэтага было замала. Потым купіў свой акардэон і крыху граю, але не лічу, што раблю гэта добра. Тым не менш, схільнасць да музыкі адчуваю з маленства.


З калегамі настаўнікамі

Сам люблю спяваць і люблю слухаць іншых. Я ўжо казаў, што ў дзяцінстве хадзіў да суседа слухаць радыё. Людзі гаварылі, што мой дзед па бацьку, якога я не пазнаў, бо ён памёр яшчэ да вайны, іграў на скрыпцы. Можа якіясьці яго гены ўва мне адзываюцца?

— **А якія паэтычныя гены ў Вас адзываюцца? У сваёй кароткай біяграфіі Вы напісалі, што склалі два вершы пасля курсаў для настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску ў 1975 годзе...**

— ... о, гэта былі вельмі цікавыя курсы. Мы там былі цэлы ліпень, жылі ў гасцініцы «Беларусь» на вуліцы Кірава, заняткі — вельмі цікавыя — мелі ў Педагагічным інстытуце. Нашай апякункай была выкладчыца граматыкі Ніна Васільеўна Гаўрош. Праграма пабыўкі была вельмі насычаная, пра што я ўжо напісаў. Дадам яшчэ, што нам зрабілі тры банкеты: 3 ліпеня ў гадавіну вызвалення Мінска, 22 ліпеня ў нацыянальнае свята Польскай Народнай Рэспублікі і на заканчэнне курсаў. А слоўнікамі, якіх я некалькі тады прывёз, карыстаюся да сёння.

— **А тым часам я знайшоў Ваш дэбют на літаратурнай старонцы «Белавежа» год раней («Ніва», 8 мая 1974 г.):**

*Я ў сасновай нізкай хаце вырас,*
*Тут сялян з дзяцінства я пазнаў.*
*Лёс мой звязан з чорным куском хлеба,*
*З жоўтым полем і травой у лугах.*

— Тут і ёсць, у пэўным сэнсе, адказ на пытанне, скуль узяліся мае вершы. З вясковага жыцця, цеснага кантакту з прыродай, Белавежскай пушчай, з расказаў старэйшых людзей, якіх я любіў слухаць. Ну і дзякуючы кніжкам, за якімі я прападаў. Мой дэбют быў даволі позні. Я асмеліўся пісаць вершы толькі ў студэнцкія гады. Бачыў у «Ніве», што той знаёмы напісаў складна, і той, і яшчэ іншы, хаця яны без адукацыі, а я ж як ніяк вучаны. Давай, думаю, паспрабую. І пайшло.

— **Адразу сталі пісаць па-беларуску?**

— Так, бо гэта ж мая родная мова. Я ў дзяцінстве, пакуль не пайшоў у школу, іншай і не чуў. Польскай стаў вучыцца ў школе. Праўда, калі быў




Са сваім класам



На настаўніцкіх курсах у Мінску

студэнтам, паспрабаваў пісаць і па-руску, і па-польску, але хутка гэта закінуў. А па-беларуску пішу і да сёння. Вялікім стымулам было тое, што «Ніва» тыя вершы друкавала. І сякі-такі ганарар плаціла.

— **Вы ў «Ніве» друкавалі не толькі вершы, але таксама журналісцкія тэксты са свайго наваколля.**

— Так. Запрасілі мяне нават у Беласток на з'езд карэспандэнтаў і далі там

З калектывам «Нараўчанкі»



узнагароду за мае тэксты — скураны партфель, з якім я мусіць гадоў дзесяць ездзіў на працу ў школу.

— **А на сустрэчы Літаратурнага аб'яднання «Белавежа» не ездзілі?**

— Не. Але белавежцы ў 70-я гады ездзілі па школах. Найбольш Віктар Швед і Алесь Барскі. Дык была нагода пазнаёміцца з нашымі выдатнымі паэтамі.

Увогуле, у той час, калі я вучыўся і працаваў, нашы вёскі бурлілі жыццём, і гаспадарчым, і культурным. Было пра што пісаць. Хопіць сказаць, што ў Альхоўцы ў школе было шэсцьдзясят вучняў, а сёння столькі жыхароў не будзе ў цэлай вёсцы.

*Зарастае вёска лесам,*
*Зарастае пустазеллем.*
*Рэдка дзе дзяцей сустрэнеш,*
*Рэдка дзе спявае певень.*

— **Гэтую — першую — страфу Вашага верша трэба абавязкова дапоўніць апошняй:**

*Ва ўспамінах застануцца*
*Нашы вёскі, нашы сёлы,*
*Наша моладзь, нашы людзі*
*У жытнёвае прасторы.*

— **Дзякуй Вам, што падзяліліся сваімі ўспамінамі. Жадаю моцнага здароўя, паэтычнай вены, новых песень на Вашы тэксты і добрых канцэртаў з «Нараўчанкамі».**

— Не ведаю, як гэта будзе, бо сёння настрой ненайлепшы. З-за пандэміі не сустракаемся, сядзім зачыненыя па хатах і чакаем, калі гэта скончыцца.

— **Будзем спадзявацца, што хутка.**

Размаўляў
**Мікола ВАЎРАНЮК**






* * *

*Я ў сасновай нізкай хаце вырас,*
*Тут сялян з дзяцінства я пазнаў.*
*Лёс мой звязан з чорным куском хлеба,*
*З жоўтым полем і травой у лугах.*

*Мне гавораць кінуць родну вёску,*
*У цесны горад крокі падаваць.*
*А мне цяжка з вёскай развітацца...*
*Ці прабачыць добры мілы край?*

*Ці прабачыць белая бярозка,*
*Што расла са мною пад акном,*
*Як прасціцца з ціхаю дарожкай,*
*Што праходзіць блізка над ракой?*

*І папробуй раскусі заданне,*
*Дай адказ на ўсіх пытанняў сто.*
*Сэрцу жаль... і сэрца жаль. Няспынна*
*Сэрца мне падказвае адно.*

*Зноў іду прасёлачнай дарогай,*
*Зноў зялёны вецер чэша твар,*
*І рукой ківае мне бярозка,*
*І пад шапкай многа-многа мар.*

*«Ніва», 8 мая 1974 г.*

## *На магіле Хатыні*

*У Хатыні не гасне агонь,*
*У Хатыні не моўкнуць званы.*
*З непакрытаю галавой*
*Тут ідуць і стары, і малы.*

*Я стаю ў натоўпе людзей,*
*А вакол непарушная ціш,*
*Толькі вецер трывожна гудзе,*
*Ды бетон, ды бетон усё крычыць.*

*Я лаўлю гэты жудасны крык,*
*Болем сэрца лаўлю я яго,*
*І схіляю, схіляю чало*
*Над святою магільнай зямлёй.*

*Няхай сэрца ў грудзях зашчыміць,*
*Няхай сціснуцца ў нас кулакі,*
*Няхай кожны з нас помніць заўжды*
*Вечны плач, вечны звон – Хатынь!*

*«Ніва», 4 студзеня 1976 г.*

## *Жывуць песні*

*Заглянуў вечар у акно,*
*Бліщчаць сняжынкі серабрыстыя –*
*Просіцца песня на прастор –*
*Задумлівая, чыстая.*

*А над хатамі цішыня*
*Стаіць такая мірная –*
*Выходзіць песня на прастор,*
*З маленства незабыўная.*

*І шэпт бярозы пад акном,*
*Лады гармоніка празрыстыя,*
*І льецца песня на прастор –*
*Далёкая і блізкая.*

*Не муціць песня цішыні,*
*Галасы хора – урачыстыя!*
*Жывуць у сэрцы назаўджы*
*Песні далёкія... і блізкія.*

*«Ніва», 12 лютага 1984 г.*

## *Родныя словы*

*З добрых казак, ад пахучых ніў,*
*З матчынай песняй-калахынкаю*
*Уваходзіць назаўжды ў нашыя сны*
*Роднае слова – вечарам і ранкамі.*
*О, мова родная – крыніца нашых дум!*
*Ты кожнаму дзяцінства свет адкрыла.*
*Бацькі! – вы асталіся без сыноў,*
*Не навучыўшы роднай мове сына.*

*Не навучыўшы... страціце дачку,*
*Дзеці не будуць ганарыцца вамі...*
*Падумайце, падумайце, бацькі,*
*Сваімі роднымі, бацькоўскімі славамі.*

*«Ніва», 8 лютага 1981 г.*

## *Зарастае вёска*

*Зарастае вёска лесам,*
*Зарастае пустазеллем.*
*Рэдка дзе дзяцей сустрэнеш,*
*Рэдка дзе спявае певень.*

*Адсюль людзі выязджаюць*
*На магільнік або ў горад.*
*Ніхто сюды не вяртае,*
*Ніхто жыці тут не хоча.*

*Вось якое стала ліха!*
*Нашы вёскі апусцелі.*
*У драўляных людных хатах*
*Цяпер стала ціха-ціха.*

*Бяда вёскам, гора сёлам,*
*Без вайны яны так гінуць.*
*Прайшла мода жыць у вёсках,*
*Больш нічога не прыкінуць.*

*Ва ўспамінах застануцца*
*Нашы вёскі, нашы сёлы,*
*Наша моладзь, нашы людзі*
*У жытнёвае прасторы.*

## *Святло паэзіі*

*Я за паэзію свой голас падаю –*
*Прозы на штодзень у жыцці хапае.*
*Няхай у хаце май заўжды цвіце,*
*Пачуцці ў сэрцах не згасаюць.*

*Бо кветкі лепш запахнуць навакол,*
*І дрэвы загамоняць па-другому,*
*Калі з табой паэзіі святло*
*А мы – калі рамантыкі хоць троху.*

*Бо кожны чалавек дабрэе на вачах*
*Пасля старонак лірыкі чароўнай –*
*Акрылены, адноўлены, гатоў*
*Учынак беззаганны выканаць ахвотна.*

*Дык вось чаму паэзію люблю,*
*Ды шчыра слаўлю песнь паэта.*
*Я сам хацеў бы ўмець тварыць, пісаць*
*І кветкі ўскідаць на бездань свету.*

*«Ніва», 6 ліпеня 1986 г.*

## *Далёкія вальсы*

*У сініх касцюмах і белых сукенках*
*Памяць нагадвае сны:*
*Кружацца вальсы, любімыя вальсы –*
*Вальсы са школьнай пары.*

*Сінія ветры, белыя хвалі –*
*Памяць ідзе праз гады,*
*Сняцца нам вальсы, добрыя вальсы –*
*Вальсы далёкай пары.*

*Кліча званок урачыста за парту,*
*Крочыць настаўнік стары,*
*У яго сэрцы светлыя вальсы –*
*Вальсы юнацкай пары.*

*Строгія мамы святлеюць на твары –*
*Дні маладосці ўсплылі...*
*Памяць іграе на струнах гітары*
*Вальсы са школьнай пары.*

*«Ніва», 7 снежня 1986 г.*

## *Адлятае лета*

*Адлятае на поўдзень лета*
*Разам з буслямі ў сумным палёце,*
*Я крычу «да пабачэння» лету*
*На зялёным духмяным пракосе.*

*Я махаю рукой птушкам*
*Заміраючым на набасхіле...*
*«Вы ляціце, ляціце, ляціце...*
*І вяртайцеся да нас, мілыя...»*

*Мы сустрэнем вас, вы пазнаеце*
*Свае добрыя гнёзды-хаты.*
*Зноў адвечны бор заспявае,*
*Адгукнуцца яму сенажаці.*

*А цяпер заціхаюць далі,*
*Залатая восень настала –*
*Ад зялёнай кароны таполі*
*Ветрам першы лісток адарвала.*

*Адарвала і закружыла*
*Сірацінаю ў чыстым полі;*
*Не, не вернецца год растрачаны,*
*Як загінуўшы ліст таполі,*
*Восень... восень у полі.*

*«Ніва», 6 кастрычніка 1985 г.*

## *Вясною*

*І зноў плывуць у небе жураўлі,*
*Пад сонцам зелянеюць дрэвы,*
*І абудзіліся застыўшыя палі,*
*Ды пракрычалі пеўні новыя напевы.*

*Сусед бадзёра ставіць новы плот,*
*Суседка шые новае адзенне.*
*У другім канцы сяла рыхтуецца вяселле,*
*І закрасуецца вясёлкай карагод.*

*Чуць-чуць мацней заб’ецца ў грудзях сэрца,*
*Чуць-чуць мацней зайграе ў жылах кроў –*
*Душа шукае для сябе прастораў,*
*Вясна шуміць, шуміць вясна вакол.*

*«Ніва», 6 чэрвеня 1976 г.*

## *Семяноўская чайка*

*Скончыўся зімовы холад,*
*Сонца дорыць цяпло.*
*Над Семяноўкай чайкі,*
*Чайкі ляцяць над сялом.*

*Чайкі, зноў кружаць чайкі*
*Над азёрнай імглой.*
*Зноў белакрылыя чайкі*
*Над семяноўскай вадой.*

*Чайка, семяноўская чайка*
*Мне памахала крылом...*
*А я табе, белакрылая чайка,*
*А я табе памахаю рукой.*

*Край мой, край мой балотны,*
*Край мой, край дарагі!*
*Шлюць табе прывітанне*
*Чайкі і рыбакі.*

*Чайка, семяноўская чайка*
*Мне памахала крылом...*
*А я табе, белакрылая чайка,*
*А я табе памахаю рукой.*

*Будуць песні складацца,*
*Будуць песні звінець,*
*Будуць над Семяноўкай*
*Улетку чайкі ляцець.*

# Wielokulturowość Podlasia

## — rzeczywistość czy mit?



Sławomir IWANIUK

Przełom polityczny, który nastąpił w Polsce w 1989 r., spowodował zmianę sytuacji mniejszości narodowych, co dotyczyło również społeczności białoruskiej. Rządząca jeszcze wówczas Polska Zjednoczona Partia Robotnicza pod naciskiem opozycji wyraziła zgodę na udział mniejszości narodowych w wyborach parlamentarnych wyznaczonych na 4 czerwca 1989 r. W efekcie Białorusini po raz pierwszy po II wojnie światowej zaistnieli w publicznej przestrzeni kraju jako Białoruski Komitet Wyborczy i na krótko stali się trzecią siłą polityczną w ówczesnym województwie białostockim. W nowo powołanym polskim parlamencie w sierpniu 1989 r. utworzona została Komisja ds. Mniejszości Narodowych Sejmu RP, której przewodniczącym został Jacek Kuroń z Obywatelskiego Klubu Poselskiego. Pod wpływem tego czołowego wówczas polityka podjęto wówczas prace nad ustawą o mniejszościach narodowych, którą parlament Rzeczypospolitej Polskiej uchwalił dopiero po kilkunastu latach.

Zmiana systemu politycznego w Polsce dała Białorusinom możliwość normalnego funkcjonowania głównie w sferze kultury — już bez ograniczeń czynionych przez władze państwowe, jak to miało miejsce we wcześniejszym okresie z koncesjonowaną działalnością Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego (BTSK). Na początku lat 90. XX w. powstało więc wiele białoruskich organizacji, które zaczęły swoją aktywnością obejmować obszary daleko wykraczające poza dotychczasowe działania BTSK. Wśród młodego pokolenia prężnie zaczęły działać Białoruskie Zrzeszenie Studentów oraz Związek Młodzieży Białoruskiej. Pisarze i poeci białoruscy zrzeszyli się w ramach Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża", które zaczęło publikować ich twórczość. Dziennikarze utworzyli w 1992 r. Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich. W następnym roku swoją organizację pod nazwą Białoruskie Towarzystwo Historyczne powołali historycy, gdyż ani jedna państwowa instytucja badawcza nie chciała zajmować się historią Białorusinów w Polsce. Wydawcą białoruskiej gazety „Niwa", po przejęciu tego tytułu od upadającego koncernu RSW, została utworzona w czerwcu 1992 r. Rada Programowa Tygodnika „Niwa", dzięki której tytuł ten nie zniknął z rynku prasowego. Nawet białoruska diaspora na Pomorzu stworzyła własną organizację pod nazwą Białoruskie Towarzystwo Kulturalne „Chatka" w Gdańsku. Do koordynacji działalności nowo utworzonych organizacji szybko powołany został Związek Białorusi w Rzeczypospolitej Polskiej, który zarejestrowano w marcu 1993 r. W jego skład weszło również Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne — jedyna w Polsce partia

polityczna utworzona przez przedstawicieli mniejszości narodowej.

Zachodzące w Polsce zmiany ustrojowe i wzmożona aktywność białoruskich organizacji nie zahamowały jednak procesu wyludniania się wschodnich terenów Podlasia, będących matecznikiem białoruskiej mniejszości narodowej. Kryzys demograficzny szczególnie dotykał gminy wiejskie, ale także miasto Hajnówka. Proces wyludniania się wsi białoruskich zaczął przybierać dramatyczny wymiar, bo w licznie zasiedlonych jeszcze przed ćwierćwieczem wsiach obecnie ostali się tylko nieliczni emeryci i pojedynczy gospodarze. Centralne władze w Polsce nie podjęły nawet dyskusji na temat tragicznej sytuacji demograficznej gmin zamieszkiwanych przez Białorusinów. Podobnie było na szczeblu wojewódzkim, bo w licznych „strategiach" i „programach", które od 1999 r. zatwierdzał Sejmik Województwa Podlaskiego, problem ten po prostu był pomijany. Co prawda z inicjatywy posła Eugeniusza Czykwina zagadnieniu demografii wschodniego Podlasia poświęcone zostało w 2013 r. jedno z posiedzeń sejmowej Komisji Mniejszości Narodowych i Etnicznych, ale z przygotowanej analizy nieznanego bliżej eksperta można było dowiedzieć się, że winę za taki stan rzeczy ponoszą sami Białorusini, bo są słabo zorganizowani i do tego skłóceni.

Wraz z migracją młodzieży do miast białoruska mniejszość narodowa na Podlasiu ze społeczności wiejskiej stała się społecznością miejską. Zmiana ta była nie tylko formalna, gdyż z biegiem czasu następowały również przemiany w sferze świadomości elity białoruskiej. Najlepiej świadczy o tym aktywność młodych migrantów w Białymstoku. Na początku lat 90. XX w. dzięki osobom związanym z Białoruskim Zrzeszeniem Studentów, najpierw wprowadzono język białoruski w jednym z samorządowych przedszkoli w Białymstoku, a następnie do białostockich szkół szczebla podstawowego, gimnazjalnego i licealnego. Były to wydarzenia wręcz epokowe, gdyż język białoruski w szkołach Białegostoku nie był obecny w zasadzie od 1946 r., kiedy to władze komunistyczne zlikwidowały białoruskie gimnazjum. Do tego w centrum stolicy województwa pojawiła się w publicznej przestrzeni tablica z nazwą „Publiczne Przedszkole Nr 14 z polskim i białoruskim językiem nauczania w Białymstoku". Na podkreślenie zasługuje

Rada Główna Białoruskiego Zrzeszenia Studentów, Białystok 1989 r. / archiwum Białoruskiego Zrzeszenia Studentów



również wprowadzenie od 2007 r. nauczania języka białoruskiego w Niepublicznej Szkole Podstawowej św. św. Cyryla i Metodego w Białymstoku.

Na Podlasiu w latach 90. XX w. swoje organizacje tworzyły także lokalne środowiska białoruskie. Przykładowo w Krynkach nieżyjący już pisarz Sokrat Janowicz założył Stowarzyszenie Villa Sokrates, które obecnie — już jako fundacja — rokrocznie organizuje spotkania intelektualistów pod nazwą „Trialogi", na których dyskutuje się o najważniejszych dla Białorusinów problemach. Efekty tych wydarzeń publikowane są w roczniku „Annus Albaruthenicus". Przy Fundacji Villa Sokrates działa również prywatna galeria sztuki „Galeria Krynki", której organizatorem jest znany artysta-plastyk Leon Tarasewicz. Również w latach 90. XX w. w Bielsku Podlaskim zaczął się kształtować ośrodek zajmujący się dziejami białoruskiego mieszczaństwa. Na fali tej aktywności w 2000 r. utworzono Stowarzyszenie Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach. Organizacja ta prowadzi działalność na rzecz zachowania lokalnych tradycji białoruskich, które są prezentowane m.in. w prywatnym muzeum w Bielsku Podlaskim oraz w trakcie wielu wydarzeń kulturalnych.

Spośród organizacji białoruskich specyficzną ewolucję przeszło Stowarzyszenie Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce, które zarejestrowano w końcu 2003 r. Powstało ono z przekształcenia się Społecznego Komitetu Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce (działał pod tą nazwą w latach 1995-2003, a wcześniej, od 1984 r, nosił nazwę Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego). Główną postacią komitetu do 1997 r. był jego wieloletni przewodniczący Konstanty Mojsienia, dzięki determinacji którego powstało niepaństwowe Muzeum Białoruskie w Hajnówce. Obecnie to stowarzyszenie prowadzi działalność muzealną, a także jest organizatorem wielu lokalnych przedsięwzięć kulturalno-oświatowych (wystaw sztuki, festynów, konkursów, pokazów filmowych). Aktywności tej sprzyja bardzo dobra baza lokalowa w postaci budynków muzeum, które zlokalizowane są w centrum Hajnówki.

Działalność na niwie kultury kontynuuje utworzone w 1956 r. Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne. Jeszcze w 1994 r. kierownictwo BTSK w sprawozdaniach wykazywało 18 oddziałów rozlokowanych w 17 miejscowościach: Białowieża, Białystok (2 oddziały), Bielsk Podlaski, Czeremcha, Czyże, Dąbrowa Białostocka, Dubicze Cerkiewne, Gdańsk, Gródek, Hajnówka, Kleszczele, Narew, Narewka, Orla, Siemiatycze, Sokółka, Warszawa. W zmieniających się uwarunkowaniach politycznych i ekonomicznych szybko zaprzestały działalności oddziały w Gdańsku i Warszawie, osłabła także aktywność oddziałów w pozostałych miejscowościach. Na początku XXI w. praca BTSK w terenie zaczęła opierać się na członkach zespołów śpiewaczych i władzach niektórych gmin leżących we wschodniej części województwa podlaskiego.

Zmiany systemu politycznego zachodzące w Polsce po 1989 r. otworzyły także nowy etap nauczania języka białoruskiego w szkołach na Białostocczyźnie. Należy zaznaczyć, iż ten ważny dla mniejszości białoruskiej problem regulują przepisy prawa oświatowego wprowadzone w 1991 r.

Języka białoruskiego, jako dodatkowego i nieobowiązkowego przedmiotu, jeszcze w roku szkolnym 1990/1991 uczyło się 3033 uczniów w 48 szkołach podstawowych, które działały na terenie 14 gmin (miasto i gmina Bielsk Podlaski, Boćki, Czeremcha, Czyże, Dubicze Cerkiewne, Gródek, miasto i gmina Hajnówka, Kleszczele, Narew, Narewka, Orla, Zabłudów). Po utworzeniu samorządu terytorialnego wszystkie szkoły podstawowe od 1994 r. przeszły w gestię władz gminnych, co

wiązało się z przejęciem przez gminy finansowania tej części polskiego systemu oświaty. W związku z niżem demograficznym i malejącą liczbą uczniów władze gminne w ramach tzw. oszczędności finansowych w ciągu dwóch dziesięcioleci zamknęły wiele małych placówek, w których był nauczany język białoruski. W efekcie w takich gminach jak Białowieża, Czyże, Dubicze Cerkiewne, Kleszczele, Michałowo, Narew, Narewka, Orla pozostała tylko jedna szkoła podstawowa. Większość uczniów ze zlikwidowanych placówek kontynuowało naukę języka białoruskiego w nowych, w których zresztą już wcześniej były prowadzone zajęcia z tego przedmiotu. Jednak język białoruski wraz z likwidacją małych podstawówek zniknął w części gmin z systemu oświaty, gdyż na przykład po likwidacji szkoły w Nurcu dzieci białoruskie, które przeszły do Szkoły Podstawowej w Boćkach, nie kontynuowały nauczania języka ojczystego. Podobna sytuacja miała miejsce po zamknięciu szkoły w Rybołach w gminie Zabłudów. Przyczyną takiego obrotu sprawy był przede wszystkim nieprzychylny stosunek polskiej większości do Białorusinów.

Po 1989 r. obok szkół podstawowych z językiem białoruskim bez zakłóceń kontynuowały działalność tzw. białoruskie licea w Bielsku Podlaskim i Hajnówce, w których w roku szkolnym 1990/1991 języka ojczystego uczyło się 644 młodych Białorusinów.

Duże zmiany w polskim systemie edukacji wprowadziła reforma z 1999 r., gdyż utworzono wówczas sześcioklasowe szkoły podstawowe, trzyklasowe gimnazja oraz trzyklasowe licea. W roku szkolnym 2002/2003, kiedy w pełni ukształtowała się nowa struktura szkolnictwa, języka białoruskiego na etapie podstawowym uczyło się w 24 szkołach podstawowych 1831 uczniów, w 13 gimnazjach — 1054 uczniów, a w 2 liceach — 845 uczniów, czyli ogółem 3730 młodych Białorusinów. Należy zauważyć, iż w niektórych miastach i gminach ze znaczącym odsetkiem mieszkańców narodowości białoruskiej w nazwie szkoły ujęto wówczas język białoruski, np.: w Bielsku Podlaskim nowej szkole nadano nazwę Publiczne Gimnazjum z Dodatkową Nauką Języka Białoruskiego i połączono z tzw. białoruską trójką (Szkołą Podstawową nr 3), Publiczne Gimnazjum z Dodatkową Nauką Języka Białoruskiego w Hajnówce połączono z białoruskim liceum, natomiast w Orli utworzono Zespół Szkół z dodatkowym nauczaniem języka białoruskiego.

Po kilkunastu latach działalności gimnazjów reforma szkolnictwa ten typ szkół zlikwidowała i nastąpił powrót do ośmioklasowych podstawówek i czteroklasowych liceów.

W roku szkolnym 2019/2020 w województwie podlaskim na lekcje języka białoruskiego w 25 szkołach podstawowych uczęszczało 1995 dzieci, zaś w dwóch liceach — 589 uczniów, czyli ogółem 2584 uczniów. W ciągu dwudziestolecia XXI w. liczba uczniów uczęszczających na dodatkowe i nieobowiązkowe lekcje ojczystego języka białoruskiego zmniejszyła się więc o jedną trzecią.

Ważną rolę w polskim systemie oświaty w zakresie podtrzymywania poczucia tożsamości narodowej dzieci należących do mniejszości białoruskiej odgrywał i odgrywa czynnik społeczny, w tym białoruskie organizacje. Stowarzyszenia białoruskie oferują dzieciom i młodzieży szereg przedsięwzięć edukacyjnych i kulturalnych, organizując dodatkowe zajęcia, np.: śpiew w chórach, różne formy teatralne, warsztaty dziennikarskie, zajęcia etnograficzne, konkursy recytatorskie. Dzięki proponowanym formom pracy pozalekcyjnej i pozaszkolnej młode pokolenie Białorusinów w Polsce może rozwijać własne zainteresowania oraz uzyskiwać dodatkową wiedzę, niedostępną w obowiązujących szkolnych programach nauczania, w których problematyka białoruska jest marginalizowana. Organizacje społeczne aktywnie propagują



Otwarcie stałej wystawy poświęconej kompozytorowi Janowi Tarasiewiczowi w Filharmonii i Operze Podlaskiej, Białystok 2013 r. / archiwum tygodnika „Niwa"

ideę kultywowania tożsamości narodowej w lokalnych środowiskach białoruskich, pełniąc bardzo ważną rolę integracyjną wśród rodziców dzieci uczących się języka białoruskiego.

Dlatego też w 2002 r. w Białymstoku zostało utworzone Stowarzyszenie na rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego „AB-BA". Impulsem do powołania tej organizacji było właśnie zaangażowanie rodziców w kształcenie i wychowanie własnych dzieci w duchu białoruskim. Realizowane w ramach polskiego systemu oświaty programy nauczania języka białoruskiego (3 lekcje tygodniowo) dawały i dają tylko minimum wiedzy służącej podtrzymywaniu poczucia tożsamości narodowej, co — jak pokazały wcześniejsze dziesięciolecia — nie przeciwdziałało procesom asymilacyjnym. Uznano więc, że szkolne lekcje muszą być uzupełnione o zajęcia dodatkowe, które rozwijałyby białoruską świadomość dzieci jako obywateli Rzeczypospolitej Polskiej. Stowarzyszenie AB-BA w swojej działalności poszerzyło ofertę edukacyjną skierowaną do uczniów, ale także zaczęło wspierać nauczycieli języka białoruskiego, m.in. organizując konferencje metodyczne i wydając półrocznik „Biełaruski nastaunik" („Białoruski Nauczyciel"). Wielką rolę organizacja ta odgrywała (i odgrywa) w integracji rodziców, którzy zdecydowali się posyłać dzieci na zajęcia z języka białoruskiego ze świadomością, że wiąże się to z dodatkowymi obowiązkami.

W Białymstoku w 2006 r. powstała jeszcze jedna organizacja — Towarzystwo Kultury Białoruskiej. Wręcz dosłownie wypączkowało ono z BTSK po tym, jak Ministerstwo Spraw Wewnętrznych i Administracji odmówiło finansowania

organizowanych przez nie imprez kulturalnych. Pretekstem do zajęcia przez ministerstwo tak restrykcyjnego stanowiska było wykorzystanie kilku tysięcy złotych (z ogólnej dotacji o wielkości ok. 400 000 zł) nie na dotowane imprezy kulturalne, a na remont rozpadających się schodów siedziby BTSK przy ul. Warszawskiej 11 w Białymstoku. Wiceprzewodniczącym nowego stowarzyszenia został Jan Syczewski — jednocześnie przewodniczący Zarządu Głównego BTSK. Ten układ personalny wyraźnie potwierdzał zależności między wymienionymi stowarzyszeniami. TKB przejmując inicjatywy realizowane wcześniej przez BTSK wystąpiło do ministerstwa o dotacje na te przedsięwzięcia i je otrzymało.

Omawiając pokrótce strukturę organizacyjną białoruskiej wspólnoty warto jeszcze wspomnieć o utworzeniu w 2014 r. Fundacji Teatr Czrevo, która przynajmniej w części zaczęła pełnić rolę profesjonalnego białoruskiego teatru. Jest ona również organizatorem prezentującego białoruski repertuar Festiwalu Teatralnego „ODE" w Białymstoku.

Organizacje białoruskie, rozumiejąc znaczenie i rolę mediów publicznych, takich jak radio i telewizja, już na początku lat 90. XX w. dobiły się zwiększenia czasu nadawania audycji w języku białoruskim w Radiu Białystok. A wraz z utworzeniem w Białymstoku w 1997 r. regionalnego ośrodka Telewizji Polskiej, także pod presją białoruskich organizacji, w ramówce telewizyjnej wprowadzono krótki program w języku białoruskim. Należy podkreślić, iż obecność audycji dla mniejszości białoruskiej została zagwarantowana w ustawie o radiofonii i telewizji.

Jednakże sytuacja ograniczonej obecności białoruskiej problematyki w publicznym radiu i telewizji skłoniła środowisko białoruskie do powołania własnej rozgłośni radiowej. Stało się to dopiero w 1999 r. Po pozyskaniu od sponsorów środków finansowych w eterze zaistniało Białoruskie Radio Racja, którego siedziba mieści się w Białymstoku. Nadaje ono audycje nie tylko nakierowane na odbiorcę białoruskiego w Polsce — na Białostocczyźnie i w okolicach Białej Podlaskiej, ale także




Zakończenie roku szkolnego w II Liceum Ogólnokształcącym z Białoruskim Językiem Nauczania w Bielsku Podlaskim, Bielsk Podlaski 2008 r. / archiwum tygodnika „Niwa"

w Republice Białoruś — obejmując zasięgiem Grodzieńszczyznę i obwód brzeski.

Należy też zaznaczyć, iż już na początku lat 90. XX w. ze środowiska białoruskiego w Białymstoku wyszła inicjatywa stworzenia programów edukacji międzykulturowej, które skierowane byłyby do całej społeczności uczniowskiej w regionie — bez względu na narodowość. Ich realizacja miałaby służyć likwidacji panujących stereotypów i przeciwdziałaniu nietolerancji wobec Białorusinów. Jednak postulat wprowadzenia edukacji międzykulturowej do szkół w regionie zignorowały ówczesne władze państwowe i samorządowe, a także wszystkie lokalne siły polityczne. Problem edukacji międzykulturowej wrócił pod dyskusję w województwie podlaskim w związku z zaistniałymi w ostatnim czasie spektakularnymi aktami nietolerancji skierowanymi przeciwko mniejszości białoruskiej, takimi jak zniszczenie dwujęzycznych tablic w gminie Orla czy gloryfikowanie jednego z dowódców oddziału polskiego podziemia jako tzw. żołnierza wyklętego, z którego rozkazu w 1946 r. spalonych zostało kilka białoruskich wsi i zamordowano kilkudziesięciu cywili.

Różne środowiska białoruskie w demokratyzującej się Polsce, począwszy od pierwszych wyborów w 1989 r. biorą udział w wyłanianiu swych przedstawicieli do władz wszystkich szczebli. W Sejmie przez wiele kadencji, także w obecnej, zasiada wspomniany Eugeniusz Czykwin, który związany jest z kręgami hierarchii Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego — startując początkowo z listy Unii Chrześcijańsko-Społecznej, następnie lokalnego Komitetu Wyborczego Prawosławnych, poprzez komitet Sojuszu Lewicy Demokratycznej, by obecnie zatrzymać się w szeregach Platformy Obywatelskiej. W polskim parlamencie po 1989 r. było obecnych jeszcze kilka osób wywodzących się z mniejszości białoruskiej, jednak ich działalność nie wpłynęła na polepszenie sytuacji Białorusinów w Polsce. Od utworzenia w 1990 r. samorządu terytorialnego osoby narodowości białoruskiej zasiadają także we władzach miast i gmin, na których terytorium Białorusini stanowią znaczącą część lokalnej społeczności. Podobnie rzecz się ma na szczeblu powiatów (białostockiego, bielskiego, hajnowskiego, siemiatyckiego i sokólskiego) oraz województwa podlaskiego.

Zgromadzenie Narodowe w dniu 2 kwietnia 1997 r. uchwaliło Konstytucję Rzeczypospolitej Polskiej, w której art. 35 ustalał prawa mniejszości narodowych: „1. Rzeczpospolita Polska zapewnia obywatelom polskim należącym do mniejszości narodowych i etnicznych wolność zachowania i rozwoju własnego języka, zachowania obyczajów i tradycji oraz rozwoju własnej kultury. 2. Mniejszości narodowe i etniczne mają prawo do tworzenia własnych instytucji edukacyjnych, kulturalnych i instytucji służących ochronie tożsamości religijnej oraz do uczestnictwa w rozstrzyganiu spraw dotyczących ich tożsamości kulturowej". W ten sposób został zrealizowany podstawowy postulat kongresu założycielskiego Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego.

Po 1989 r. publiczna przestrzeń zajmowana przez społeczność białoruską na Podlasiu, przy braku profesjonalnej instytucji kultury finansowanej z budżetu państwa, była jednak słabo zagospodarowana, bo i zaangażowanie w działalność pod szyldem organizacji białoruskich było raczej niewielkie — na co wskazują liczby członków poszczególnych stowarzyszeń, liczonych bardziej w dziesiątkach niż setkach. Podobna sytuacja była właściwa dla całego społeczeństwa polskiego, które pomimo zmian ustrojowych państwa, obywatelskim jest bardziej formalnie niż w rzeczywistości, bo w działalność społeczną Polacy raczej się angażowali niechętnie.

Rozumiejąc słabości w funkcjonowaniu stowarzyszeń, których działalność opiera się na pracy społecznej członków, już

